# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 13 (631) ГОД XIII 31 САКАВІКА 1968 г. ЦАНА 60 гр.


Новыя вершы

## НЕПРЫРУЧАНАЯ ПТУШКА

Мне па душы глухія пушчы.
Лістоты замець на дварэ.
Я непрыручанаю птушкай
Жыву між сполахаў і дрэў.
Каторы дзень настрой губляю
І зноў, па-новаму, люблю.
Іду, гукаю, выглядаю,
Шукаю, думаю, не сплю.
О людзі! — Вечныя пытанні,
Вытокі мудрасці і зла.
Нясу ў сваё святое ранне
Любоў і гнеў на паўкрыла.
Мяне ў палёце не скарылі,
А калі збочу, то малю:
Скруціце стомленае крылле
І кіньце ў родную раллю.

Жэня Янішчыц

# БГКТ

## У ВАРШАЎСКІМ АДДЗЕЛЕ

Праца Варшаўскага аддзела БГКТ у лютым г.г. была накіравана на адзначэнне знамянальнага юбілею — 50 гадавіны Савецкай Арміі.

Пяцідзесяцігоддзю ваенных сіл СССР, а таксама 25 гадавіне гістарычнай перамогі над гітлераўскімі войскамі пад Сталінградам была прысвечана ўрачыстая акадэмія, арганізаваная 8.II.г.г. супольна з дырэкцыяй Дома савецкай культуры ў Варшаве.

Акадэмію адкрыў намеснік дырэктара Дома савецкай культуры тав. Аляксандр Іванавіч Смалянаў. Прывітаў ён сардэчна прысутных на акадэміі генерала брыгады Войска Польскага тав. Самуіла Малько, палкоўніка Савецкай Арміі тав. Алега Сяргеевіча Мелказёрава, членаў і сімпатыкаў Варшаўскіх аддзелаў Беларускага і Літоўскага грамадска-культурных таварыстваў.

З цікавым і змястоўным дакладам аб гераічным шляху пройдзеным Савецкай Арміяй, аб пераможнай сталінградскай бітве, якая была паваротным пунктам у лёсе II сусветнай вайны — выступіў палкоўнік А. С. Мелказёраў.

Ад імя Беларускага таварыства выступіў Віктар Швед, які сваю прамову закончыў уласным вершам «Савецкай Арміі» (у слаўнае пяцідзесяцігоддзе).

У другой частцы акадэміі дэманстравалася трэцяя частка савецкага мастацкага кінафільма «Вайна і мір».

16.II. у памяшканні Таварыства на Сенаторскай адбылася сустрэча з генералам брыгады Войска Польскага тав. Самуілам Малько.

Генерал С. Малько шмат гадоў свайго жыцця аддаў барацьбе за волю і шчасце беларускага і польскага народаў. У часе II сусветнай вайны ён у радах Савецкай Арміі, а потым у радах Войска Польскага прайшоў баявы шлях да Берліна.

У міжваенны перыяд, будучы членам Цэнтральнага Камітэта КПЗБ, тав. С. Малько змагаўся з санацыйнымі ўладамі Польшчы за вызваленне зямель Заходняй Беларусі і ўз'яднанне іх у адзінай сацыялістычнай дзяржаве.

Надзвычай цікава, пераканаўча і непасрэдна расказаў ген. С. Малько аб сваіх непасрэдных кантактах з беларускімі легальнымі арганізацыямі, з прагрэсіўнымі беларускімі палітычнымі дзеячамі, пісьменнікамі. Тав. Малько выступаючы пад партыйным псеўданімам «Паўлік» шмат дапамог паэту Максіму Танку ў яго палітычным росце, у цяжкіх матэрыяльных абставінах і ў выданні яго паэтычных зборнікаў.

Цікава прадстаўлялася публіцыстыка тав. «Паўліка» (С. Малько), яго адважныя артыкулы, друкаваныя на старонках беларускіх легальных прагрэсіўных газет і ў нелегальным камуністычным друку.

Сустрэча з ген. С. Малько была надзвычай карыснай. Прысутныя пазнаёміліся з часткай малавядомай гісторыі заходнебеларускага камуністычнага руху.

28.II. у памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ адкрыта выстаўку савецкага ваеннага плаката пазычаную ў Сталічным праўленні ЗМС. Выстаўка прадстаўляе гісторыю Савецкай Арміі, яе гераічную барацьбу з вонкавымі і ўнутранымі ворагамі на ўсіх франтах грамадзянскай і Айчыннай войн.

Праўленне аддзела на сваім чарговым пасяджэнні зацвердзіла багаты план працы аддзела на 1968 год.

В. Ш.



# ПОМ СУСТРАКАЕ ВЯСНУ

Выбіраючыся да **ПОМ-у ў Бельску** здавалася мне, што зараз тут вельмі гарачы час, усё ж за некалькі тыдняў вясна. Але ў Бельскім ПОМ-е падрыхтоўку да вясны пачалі ўжо вельмі даўно тады, калі мы пачалі думаць сур'ёзна аб зіме.

Найбольшай справай у падрыхтоўцы да веснавых палявых работ — гэта трактары. Трактараў у сельгасгуртках ужо многа і гэта адна справа, а другая — шмат іх псуецца і то з розных прычын. ПОМ у Бельску, як і кожны іншы ПОМ, праводзіць капітальны рамонт трактараў. І нягледзячы на тое, што вельмі часта не хапае запасных частак, **усе трактары будуць адрамантаваны на час**. Дырэктар **Чэслаў Хмяльніцкі** паінфармаваў мяне:

— Зараз (першая палова сакавіка — А. К.) маем яшчэ адрамантаваць 16 трактараў, але да 15 сакавіка, напэўна, і іх адрамантуем.

Штоправўда, згодна з планам і гэтыя 16 трактараў павінны былі быць ужо адрамантаваны, але затрымка наступіла выключна з прычыны недахопу запасных частак, якія трэба было шукаць у іншых ваяводствах. Зрэшты, не вялікая бяда, што трактары не адрамантаваны. Калі б трэба было ісці ў поле, ПОМ мае запасныя трактары і можа іх даваць паасобным сельгасгурткам. Варта таксама дадаць, што зараз на пляцы ў ПОМ-е стаіць 12 адрамантаваных трактараў, якіх сельгасгурткі не забіраюць толькі таму, што не маюць чым плаціць за рамонт.

Аб рамонтах трактараў і машын правёў я размову з кіраўніцтвам і працаўнікамі. Усе згодна сцвердзілі, што найбольш рэкламацый (да 70% агульнага ліку рамонтаў) прыпадае на новыя трактары. Зрэшты, тут у прадукцыйным цэху я бачыў, як рамантуецца трактары. Калектыў рабочых і тэхнікаў робіць усё, каб па меры магчымасці ўласнымі сіламі, часта розпымі камбінацыямі, прывясці даную частку машыны ў карыстанне. Каб магчыма добра выспецыялізавацца ў рамонтах, напрыклад, ПОМ у Бельску спецыялізуецца ў рамонце шасі трактараў, а рухавікі дызеля рамантуе Рамонтна-прадукцыйнае прадпрыемства ў Беластоку.

Аднак, нягледзячы на найлепшае правядзенне ПОМ-амі рамонтаў, будуць выступаць недамаганні машын. Звязана гэта з тым, што кожную машыну мусяць абслугоўваць людзі. Факт гэта знаны, што ў многіх сельгасгуртках, дзе ёсць па 3 і больш трактараў, адзіным «спецыялістам» з'яўляецца трактарыст і добра яшчэ, калі трактарыст — чалавек сумленны, але многія не хочуць дбаць аб грамадскай уласнасці, і такім чынам тут хутчэй псуюцца машыны, а праўленні сельгасгурткоў, не знаючыся, не могуць гэтаму зарадзіць. І таму ПОМ у Бельску сустракае сёлеташнюю вясну масавай падрыхтоўкай перш за ўсё трактарыстаў. У павеце на курсах падрыхтоўваецца 90 трактарыстаў, а новых трактараў павет атрымае толькі 60, г.зн., што 30 чалавек — гэта запас, які будзе заступаць, калі зойдзе патрэба. Зрэшты, сярод курсантаў многа дыспетчараў сельгасгурткоў, членаў праўлення, якія тут знаёмяцца з асновамі асноў механізацыі.

У Бельскім ПОМ-е пачнецца эксперымент, які, на маю думку, напэўна, апраўдае сябе. У красавіку і маі распачнецца тут курс механікаў сельскагаспадарчых машын і прылад. Ініцыятыва ПОМ-у прыхільна была прынята Міністэрствам асветы, якое апрацавала і перадала праграму навучання. Людзі, якія закончаць гэты курс, будуць вышэйшымі спецыялістамі ад трактарыстаў і будуць абслугоўваць т.зв. кансерватарскія пункты сельскагаспадарчых машын і прылад. Агульна кажучы, гэта павысіць узравень тэхнічнай культуры, якой нам так не хапае на вёсцы.

**А. Карпюк**
фота аўтара

# РЭЗЕРВЫ ХЛЕБА

Чалавек неахвотна прызнаецца да сваёй беднаты. Беластоцкае ваяводства, калі разыходзіцца пра сельскагаспадарчую прадукцыю, займае, на жаль, адно з апошніх месц у сям'і 17-ці ваяводстваў нашай краіны. Пацяшаемся толькі тым, што тэмп развіцця сельскагаспадарчай прадукцыі Беласточчыны на працягу апошніх год быў вышэйшы ад сярэдняга ўзроўню для ўсёй краіны.

Радныя ВРН, якія 12 сакавіка сабраліся на чарговую 15-тую сесію, дайшлі да вываду, што аздараўляючай крыніцай для беластоцкай сельскай гаспадаркі з'яўляюцца нявыкарыстаныя рэзервы.

### СТРУКТУРА ПАСЕВАЎ

Пад жыта, авёс, пшаніцу і ячмень гаспадары на Беласточчыне прызначаюць каля 56% ворнай зямлі. Праўда, у Гайнаўскім, Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім паветах збожжа сеюць крыху больш. Адначасова больш 13% поля сяляне адводзяць пад кармавыя расліны — сэрадэлю, канюшыну, лубін, траву і т.п. Беласточчына багата сенажацямі. І перш за ўсё яны павінны забяспечыць жывёлу кормам. Канюшыну, а тым больш сэрадэлю можна і неабходна замяніць добрым высакаякасным сенам.

### АДНАЎЛЕННЕ НАСЕННЯ

Даўно ўжо ўстаноўлена, што сяляне абавязаны аднаўляць насенне: праз 3 гады збожжа і праз 5 год бульбу. Аднаўленне сеўнага матэрыялу жыта, аўса, пшаніцы і ячменю праходзіла наогул паспяхова, хаця толькі 5 паветаў перавыканала ўстаноўлены план. Паўднёва-ўсходнія паветы (апрача Сямяціч) не маюць, на жаль, чым тут пахваліцца. Яшчэ горш праходзіла аднаўленне пасадачнага матэрыялу бульбы. У Беластоцкім і Дуброўскім паветах план выкананы ледзь на 22%, у Бельскім — 44%. Крыху лепшыя вынікі маюць Сямяціцкі і Гайнаўскі паветы. Устаноўлена, што сяляне ў многіх вёсках і ў цэлых грамадах не прытрымоўваліся трохгадовага для збожжа і пяцігадовага для бульбы тэрміну аднаўлення насення.

Праграма аднаўлення насення прадбачвала суседскі абмен. Жыццё паказала, што ён не апраўдаў сябе. Добрыя намеры ўлад часам выкарыстоўваліся для розных махлярстваў. Таму было пастаноўлена да 1971 года суседскі абмен поўнасцю замяніць дзяржаўнымі пастаўкамі высакаякаснага насення.

### ЗАПРАЎКА ЗБОЖЖА

Толькі 1/3 азіміны і 1/5 ярыны запраўляюць у нас сяляне перад пасевам. Справа шмат палепшылася восенню мінулага года, але ўсё яшчэ далёка да задавальняючага стану. Таму ваяводская рада абавязала сельскагаспадарчыя гурткі, каб у іх руках знайшлося столькі сеўнікаў, што адзін сеўнік будзе прыпадаць на 15 гектараў — і не больш. Гэта дазволіць урэшце выкінуць каробачку ці плахту і аблегчыць запраўку насення. Адначасова да 1970 года на кожнай міжгуртКоўскай машынатрактарнай базе павінны быць абсталяваны прылады для ачысткі насення.

### ХІМІЧНАЯ ПРАПОЛКА

Толькі кожны трэці гектар поля, заняты пад вырошчванне збожжа, бачыў

(Працяг на стар. 4)

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

# СВЕТ

### НІКЧЭМНАЯ АКЦЫЯ ІЗРАІЛЯ

Завострылася сітуацыя на Блізкім Усходзе. Ізраільскія войскі зноў парушылі паразумленне аб спыненні ваенных дзеянняў і напалі на Іарданію. Трэба дадаць, што гэты акт агрэсіі з'яўляецца найвялікшым ад часоў чэрвеньскай вайны. Пасля 15-гадзіннай барацьбы іарданскія войскі спынілі паход агрэсара.

Аперацыя мела выразна тэрарыстычны характар. Гэта адно з тых дзеянняў, якія ізраільская прапаганда называе «помстай» за акцыі арабскага руху апору. Аднак у сваёй істоце вялікая агрэсіўная аперацыя мае глыбейшую палітычную мэту.

Іарданскі дэлегат на пасяджэнні Савета Бяспекі скліканай нагла заявіў: **«Атака наступіла ў той час, калі ўзраслі надзеі на пасняхавасць місіі пасла Ярынга, надзеі на пачатак сур'ёзных перагавораў і на рэалізаванне пастаноў Савета Бяспекі. Гэтыя надзеі грубіянска знішчана нікчэмнаю мілітарнаю акцыяй Ізраіля».**

Многія краіны свету з абурэннем асуджаюць чарговы акт агрэсіі. **Урад СССР у сваёй заяве падкрэслівае, што Ізраіль ідзе слядамі гітлераўскіх катаў. Як вядома — фашысцкая Германія таксама захапіла чужыя тэрыторыі, а потым імкнулася дыктаваць ахвярам агрэсіі свае ўмовы.**

### А. НОВАТНЫ ПАДАЎ У АДСТАЎКУ

Прэзідэнт Чэхаславакіі, былы I сакратар ЦК КПЧ **Антанін Новатны** падаў у адстаўку. У пятніцу (22.III.1968 г.) чэхаславацкі ўрад прыняў да ведама гэтую звестку.

Згодна з канстытуцыяй, да моманту выбараў новага прэзідэнта, яго функцыі будзе спаўняць урад. Прэм'ер-міністру даверылася некаторыя функцыі прэзідэнта, як напрыклад, функцыю галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі.

### КЕНЕДЗІ КОНТРА ДЖОНСАН

**Р. Кенедзі** дэмакратычны сенатар з Нью-Йорка і брат замардаванага прэзідэнта заявіў, што афіцыяльна ўносіць сваю кандыдатуру, што ён стае ў выбарчыя спаборніцтвы на кандыдата дэмакратаў у прэзідэнцкіх выбарах.

Джонсан з'яўляецца таксама прадстаўніком дэмакратычнай партыі, але справа ў тым, што Кенедзі ад даўжэйшага часу крытыкуе в'етнамскую палітыку Джонсана і лічыць яе безнадзейнай з усіх пунктаў гледжання.

### ГЕНЕРАЛ ВЕСТМОРЛЕНД...

...галоўнакамандуючы амерыканскімі войскамі ў Паўднёвым В'етнаме ў апошнім часе асабіста камандаваў вялікай аперацыяй у 5-ці правінцыях вакол Сайгона. Прыймала ў ёй удзел 50 тыс. салдат. Яе мэта — знішчэнне вызваленчай арміі ў гэтым раёне. Аперацыя закончылася няўдачай, а Вестморленд у ліпені мае пакінуць пасаду галоўнакамандуючага і атрымае пасаду шэфа штабу арміі. **Цяжка гэта назваць аван сам, паколькі прыпадае ён на час фіяска яго стратэгіі ў в'етнамскай вайне.**

**А. К.**

# БССР

### ПАКТЫ

Беларуская ССР падпісала міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах і міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах, якія былі прыняты на Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый 16 снежня 1966 года.

Ад імя Беларускай ССР пакты падпісаў пастаянны беларускі прадстаўнік у Нью-Йорку, у сядзібе ААН.

### КАМІТЭТ

Камітэт народнага кантролю БССР, Беларускі рэспубліканскі савет прафсаюзаў і ЦК беларускага камсамола разгледзелі вынікі рэспубліканскага агляду па эканоміі і ашчаднасці, праведзенага ў 1967 годзе на прадпрыемствах прамысловасці, будаўніцтва, транспарту і сувязі, гандлю і грамадскага харчавання, камунальна-бытавога абслугоўвання, у калгасах і саўгасах, арганізацыях і ўстановах.

Выказана шэраг крытычных заўваг.

### УСЕСАЮЗНАЯ

У Мінску адбылася Усесаюзная навуковая канферэнцыя, прысвечаная 70-годдзю першага з'езда Расійскай Сацыял-Дэмакратычнай Рабочай партыі (РСДРП). Канферэнцыю адкрыў **П. Машэраў,** першы сакратар ЦК Беларускай Кампартыі.

У канферэнцыі ўдзельнічалі выдатныя вучоныя з Масквы і Ленінграда. пасланцы саюзных рэспублік і запрошаныя госці.

Першы з'езд ленінскай партыі адбыўся 70 год таму назад, у Мінску. Да нашага часу захаваўся домік, у якім у канспірацыйных умовах адбываўся гэты з'езд. Домік гэты пераўтворана ў музей.

### ГАДАВІНА

У беларускай сталіцы адбылася ўрачыстая акадэмія, прысвечаная 20-ай гадавіне з дня падпісання Дагавору аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж Балгарыяй і Саюзам ССР.

У акадэміі, м. ін., удзельнічалі: сакратар ЦК КПБ **С. Пілатовіч,** намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і **І. Клімаў,** міністр замежных спраў Беларускай Рэспублікі **А. Гурыновіч** і іншыя асабістасці.

Былі выкананы гімны: балгарскі, савецкі і беларускі.

### КАРПЮК

У Гродне адбыўся справаздачна-выбарчы сход беларускіх пісьменнікаў Гродзеншчыны.

Вядомы нашым чытачам пісьменнік **Аляксей Карпюк** паўторна выбраны сакратаром Гродзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

### БЕЛАРУСКУЮ

Як паведамляюць беларускія газеты, Славянскі інстытут сталічнага універсітэта ў Даніі звярнуўся з просьбай аб матэрыялы дзеля вывучэння студэнтамі беларускай мовы. Сведчыць гэта, несумненна, аб росце зацікаўлення беларускай культурай у свеце. (С.Я.)

# ПОЛЬШЧА

### СУПРАЦЬ СІЛ РЭАКЦЫІ

19 сакавіка Уладзіслаў Гамулка выступаў з прамовай на сустрэчы з грамадска-палітычным актывам сталіцы, якая трансліравалася па радыё і тэлебачанне на ўсю краіну. Прамова прысвечана была нелегальным дэманстрацыям студэнтаў Варшавы і іншых універсітэцкіх цэнтраў. Уладзіслаў Гамулка падрабязна паінфармаваў слухачоў аб тым, як фактычна разыгрываліся гэтыя падзеі і які быў іх пачатак. Паінфармаваў падрабязна аб прычынах зняцця са сцэны Нацыянальнага тэатра п'есы Адама Міцкевіча «Дзяды». Прычынай былі палітычныя дэманстрацыі тэатральнай публікі ў час спектакляў «Дзядаў», дэманстрацыі перш за ўсё антысавецкага характару. Апошні спектакль «Дзядаў», які адбыўся 30 студзеня, кончыўся палітычнай дэманстрацыяй у тэатры і на вуліцах горада. Потым адбыўся надзвычайны сход Варшаўскага аддзела Саюза польскіх літаратараў, непасрэдна ўжо звязаны з пазнейшымі падзеямі ва ўніверсітэце. Стаўся ён для многіх пісьменнікаў аказіяй да заўзятых атакаў на партыю і народную ўладу з рэакцыйных варожых Польшчы пазіцый. Уладзіслаў Гамулка расказаў перш за ўсё аб становішчы Кісялеўскага, для якога ідэалам з'яўляецца аднаўленне буржуазнай антысавецкай Польшчы і Паўла Ясяніцы, які ў пасляваенны перыяд быў членам дзейнічаючай на Беласточчыне банды Лупашкі і прымаў удзел у забойствах актывістаў партыі і народнай улады.

I сакратар партыі ўнікліва пераанаізаваў палітычную істоту падзей, якія потым перарадзіліся ў анархісцкія студэнцкія дэманстрацыі. За падзеямі гэтымі стаяць тыя самыя палітычныя сілы, якія давялі Польшчу да вераснёўскай катастрофы ў 1939 годзе і якія зараз на захадзе карыстаюцца поўнымі магчымасцямі дзеяння і падтрымкай варожых Польшчы палітычных асяроддзяў.

Уладзіслаў Гамулка ўказаў на недахоп адпаведнай палітычнай і выхаваўчай працы сярод універсітэцкай моладзі. Праявіўся ён у адносінах некаторых прафесараў, якія не супрацьстаўляліся анархісцкім выступленням часткі ўніверсітэцкай моладзі, а нават ім спрыялі. У сувязі з тым, што ў аналізаваных падзеях прыняла ўдзел частка моладзі яўрэйскага паходжання, Уладзіслаў Гамулка пераанализаваў сітуацыю яўрэйскай нацыянальнай меншасці і палякаў яўрэйскага паходжання ў Польшчы. Прамоўца, між іншым, заявіў:

«Адзінай меркай ацэнкі грамадзяніна нашай дзяржавы з'яўляецца яго пастава ў адносінах да сацыялізма і істотных інтарэсаў нашай дзяржавы і народа. Кожны грамадзянін акрэслівае сваю нацыянальнасць паводле ўласнай свядомасці: Карыстаецца прытым з роўных правоў незалежна ад таго, ці лічыць сябе палякам, беларусам ці яўрэем. Але абавязвае таксама яго прынцып лаяльнасці ў адносінах да сваёй краіны, да сваёй айчыны Народнай Польшчы». (п)

# ВАЯВОДСТВА

### БЕЛАСТОЧЧЫНА З ПАРТЫЯЙ

Палітычныя банкруты, пра якіх гаварыў тав. Уладзіслаў Гамулка на сустрэчы з Варшаўскім партыйным актывам, выкарысталі маладзёжную запальчывасць варшаўскіх студэнтаў дзеля ўласных, брудных мэт. З прыемнасцю адзначаем, што студэнты Беластока не далі сябе атуманіць хлуснёй правадыроў варшаўскіх супрацьурадавых выступленняў. Кіраўніцтва Ваяводскага камітэта ПАРП наладзіла сустрэчу з прадстаўнікамі Беластоцкай медыцынскай акадэміі, Вышэйшай інжынерскай школы і настаўніцкіх студый. Беластоцкія студэнты рашуча заявілі, што яны поўнасцю падтрымліваюць слушную палітыку партыі і яе цяперашняга кіраўніцтва.

Таксама як у цэлай краіне, працоўная Беласточчына не засталася абыякавай на дыверсійныя дзеянні рэвізіяністцкіх і сіяністцкіх сіл у нашай краіне. Штодзень у дзесятках фабрык, прадпрыемстваў, устаноў і школ адбываюцца сходы і мітынгі, на якіх адназначна асуджаюць прысутныя правадыроў варшаўскіх выступленняў і выяўляюць шчырую падтрымку Цэнтральнаму Камітэту ПАРП з тав. Уладзіславам Гамулкам на чале. Немагчыма нават пералічыць усіх фабрык і ўстаноў, якія ўжо прынялі гэтага роду рэзалюцыі. Да голасу рабочых прылучыліся таксама журналісты Беластока, якія ў сваёй рэзалюцыі рашуча асудзілі палітычных банкрутаў.

Найбольш выразнай падтрымкай палітыкі нашай партыі з'яўляюцца прадукцыйныя абавязацельствы ў гонар V з'езда партыі. Заяўленні аб абавязацельствах паступаюць ужо даўжэйшы час. Аб іх мы таксама пісалі. Сёння, для прыкладу, прыпомнім, што абавязацельства тэкстыльшчыкаў фабрыкі імя Эміліі Плятэр у Васількове ацэньваецца на 327 тысяч зл., калектыў Беластоцкіх сілікатаў абавязаўся дадаткова выпусціць 200 тыс. штук цэглы, рабочыя прадпрыемства прамысловага будаўніцтва ў Беластоку ў гонар V з'езда ПАРП датэрмінова на паўтара мільёна перавыканалі план I-га квартала г.г.

Сваю прывязанасць да партыі і яе палітыкі працоўныя Беласточчыны выяўляюць таксама і ў тым, што масава выказваюць ахвоту быць членамі ПАРП. Нядаўна, напрыклад, адбыўся сход партыйнай арганізацыі прадпрыемства «А—26» у Элку. Гэтая партыйная арганізацыя найбольш шматлікая ў Элцкім павеце. Сход праходзіў пад лозунгам: «Мы — з партыяй і з Вамі, Таварыш Веслаў!» У час сходу кандыдацкія партыйныя білеты былі ўручаны амаль 10-ці рабочым.

Прэзідыум Ваяводскага камітэта Аб'яднанага стронніцтва людовага накіраваў ліст I сакратару Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, тав. А. Лашэвічу. у якім ад імя членаў стронніцтва і сялян Беласточчыны выяўляе поўную падтрымку для палітыкі партыі і заяўляе сваю салідарнасць з рабочымі. (вр)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**NIEDZIELA, 31.III.**

8.25 Program dnia. 8.30 „Pamiątki architektury" — „Psków" (Moskwa). 9.00 TV Kurs Rolniczy: „Nawożenie roślin pastewnych w uprawie polowej". 9.35 „Przypominamy, radzimy". 9.45 „Schronisko" — film turystyczny pol. 10.00 Dla młodych widzów: „Pozdrowienia od przyjaciół" (Moskwa). 10.35 „Uciekinier" — film. 11.00 „W starym kinie". 12.00 Dziennik. 12.10 „Z ludowej szkatuły" — program regionalny. 12.40 PKF. 12.55 Sprawozdanie sportowe. 14.45 „Przemiany". 15.15 Dla dzieci: Telewizyjny Teatr Lalek — R. Kipling — „Taffy". 16.15 Koncert estradowy — gra zespół J. Miliana z udziałem solistów. 17.00 „Tropik pod Koniem" — rep. film. 17.25 „Jak to się stało?" — film dok. jap. 18.15 „Ludzie i zdarzenia". 18.30 „Teatr Telewizji na świecie" — „Agamemnon" wg Ajschylosa. Reż. P. Ledoux (Belgia). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Co się zdarzyło w Silver Lode" — film fab. USA. 21.25 Niedziela Sportowa. 21.45 „Z melodią przez Brukselę" — filmowy program rozrywkowy.

**PONIEDZIAŁEK, 1.IV.**

15.40 Program dnia. 15.45 i 22.20 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.20 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.40 „Medale i detale". 18.00 „Północny Ural" — film radz. 18.15 „Eureka". 18.45 „???" Wykonawcy — Iga Cembrzyńska i Edward Dziewoński. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV. H. Rousseau: „Zemsta sieroty" — komedia. Reż. J. Gruza. 21.05 „Ubiór nie tylko zdobi". 21.30 Kino Krótkich Filmów. 22.00 Dziennik.

**WTOREK, 2.IV.**

10.00 Dla szkół (kl. III) „Od ziarnka do kromki chleba". 10.15 „Jewdokia" — film fab. radz. 11.55 Dla szkół (kl. XI) Język polski — J. Anonilh: „Skowronek". 12.30 i 15.10 Przysposobienie rolnicze: „Ochrona sadów". 13.05 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.45 i 22.35 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Szymon i Kubuś" (IV). 17.20 Dla młodych widzów: „Latający Holender na Zatoce Bengalskiej". 17.50 „Nie tylko dla pań". 18.10 „Kroki" — film prod. „Czołówka". 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 „Po szóstej". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Wiem wszystko" — teleturniej. 20.35 „Odraza" — film fab. węg. 22.15 Dziennik.

**SRODA, 3.IV.**

9.55 Dla szkół (kl. VII) Wychowanie obywatelskie: „Na obchodzie z patrolem MO". 10.30 „Charles Augustus Milverton" — film („Sherlock Holmes"). 11.20 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.00 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Pan Półka i Spółka". 17.20 Dla dzieci: „Z przygodą na ty" — film. 17.30 PKF. 17.40 „Telekram". 17.50 „Letni ogród" — film radz. 18.15 Wszechnica TV: „Wszechświat, w którym żyjemy" — „Przed milionami lat" cz. IV. 18.45 „Śpiewnik domowy" St. Moniuszki. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Charles Augustus Milverton" — film („Sherlock Holmes"). 20.55 „Światowid". 21.25 Studio Współczesne — W. Dymny: „Oskarżony". ok. 22.40 Dziennik.

**CZWARTEK, 4.IV.**

9.55 Dla szkół (kl. VIII) Historia: „W nocy nalot, w dzień łapanka". 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VI) Historia: „Liberum veto". 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. XI). Język polski: „Przyboś — Gałczyński — Różewicz". 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.05 Politechnika TV II roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 18.05 „Na morskich szlakach". 18.30 „Śladami przyjaźni". — film Tele-Aru. 18.45 „Jazz w Filharmonii". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.55 Przemówienie Ambasadora Węgierskiej Republiki Ludowej w Polsce. 20.05 „Muranów". 20.35 „Foto - Haber" — film fab. węg. 22:10 Magazyn Medyczny. 22.40 Dziennik.

**PIĄTEK, 5.IV.**

9.55 Dla szkół (kl. lic.) — Magazyn aktualności „Panorama". 10.30 „Dom na rozstajach" — film fab. radz. 12.10 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.20 Politechnika TV I roku. 16.55 Dziennik. 17.00 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.15 „Don Kichot" — film (odc. I). 17.45 „Człowiek a ziemia". 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 Wszechnica TV: „Hałas, temperatura, ciśnienie" („W pracowniach polskich uczonych"). 19.00 „Śpiewa Wanda Polańska". 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Przeprawa" — rep. filmowy. 20.25 Teatr TV: F. Hebbel — „Maria Magdalena". 21.35 „10 minut recenzji". 21.45 „Święte góry i morze" — rep. film. („Od Bałtyku do Oceanu Spokojnego"). 22.00 Dziennik.

**SOBOTA, 6.IV.**

10.30 „Szlachetne pobudki" — film fab. ang. 11.20 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII) Zoologia. „Ptaki". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Geografia: „Miliony w ziemi". 13.15 Przerwa. 15.50 Program dnia. 15.55 TV Kurs Rolniczy: „Pytania i odpowiedzi". 16.30 „Program Tygodnia". 16.55 Wiadomości dziennika. 17.05 Dla młodych widzów: „Konkurs pięciu milionów". 18.05 „Pamiętna podróż" — film („Bonanza"). 18.55 „Wieczorne rozmowy". 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor". 20.10 „Pegaz". 20.55 „Szlachetne pobudki" — film fab. ang. 21.40 Dziennik. 22.00 Festiwal Piosenki Eurowizji (Londyn).

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 29 marca**

8.05 Dziennik. 8.15 „Mister-Twister". Film animowany. 8.30 „Rewizor". Film. 14.00 „Nowiny". 14.20 Program dnia. 14.25 „O tym wiedzieć powinni wszyscy". 14.45 Język angielski dla przedszkolaków. 15.15 „Kurier Wiejski". 15.45 „Zykowowie". Spektakl TV. 18.30 „Sztafeta nowin". 19.30 Gra bajanista J. Kozakow. 20.00 „Kronika pięciolatki". 20.40 Ilf i Pietrow: „Złoty cielak". 21.00 „Tylko fakty".

**Sobota, 30 marca**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Dla studentów. 9.30 Język angielski dla przedszkolaków. 10.00 „Alba - Regia". Film. 11.30 Artysta ludowy BSRR A. Glebow. 12.00 „Szkatułka muzyczna". 12.20 „Wnukowie Neptuna". 12.50 Filmy dla dzieci. 13.30 „Czyny naszych ziomków". 14.00 W świecie sztuki. 14.20 „Kurier Wiejski". 14.45 „Spotkanie rytmiczne". 15.00 „Ja — z 60-ch". 16.00 „Klub filmowy". 17.00 „Płomyk". 18.15 Kartki kalendarza muzycznego". 18.30 „Czas". 19.00 L. Tołstoj. „Albert". Spektakl TV. 20.00 „Almanach muzyczny". 21.00 „Ściana". Nowela filmowa. 21.15 Dziennik. 21.30 Program na jutro.

**Niedziela, 31 marca**

6.30 Dla studentów. 7.00 Gimnastyka. 7.15 „Budzik". 7.45 Dziennik 8.00 Dla uczniów. 8.30 Architektoniczne pomniki Pskowa. 9.00 „Wesoły karnawał". 10.00 W świecie nauki. 10.20 „Zielone światło taksówki". 11.00 „Dla was, kobiety". 11.30 Tydzień książki dla dzieci. 12.00 Film animowany dla dzieci. 12.10 „Światło przeciwko ciemności". 13.00 Hokej: „Spartak — Dynamo". 15.15 „Melodie — 67". 15.40 „Turniej ciekawskich". 16.15 „Kiosk muzyczny". 17.00 „Jakub Bogomołow". Spektakl teatralny. 19.00 „Siedem dni". 19.45 Program rozrywkowy. 21.00 „Tyko fakty".

# Саколка разбудоўваецца



Жылыя дамы на вуліцы Длугай.

Саколка разбудоўваецца. Асабліва прыгожа разбудоўваецца яна ў паўночнай частцы. На вуліцы Длугай пабудаваны сучасныя жыллёвыя дамы. А за імі выгодны дзіцячы сад.

У недалёкім мінулым у цэнтры горада на плошчы вакол царквы адбываўся кірмаш. Сотні фурманак тут з'язджалася нават з даволі адлеглых вёсак. Зараз гэтая плошча — плошча Касцюшкі чыстая, выкладзеная цэментнымі пліткамі. Па-суседску з гэтай плошчай знаходзіцца сквер, які летам красуецца клумбамі руж.

Цэнтральнымі вуліцамі Саколкі з'яўляюцца вуліцы Беластоцкая і Гродзенская. На Беластоцкай вуліцы найбольш знаходзіцца крамаў. У таргова дзень — гэта значыць, у панядзелак — на гэтай вуліцы масы людзей.

Затое на Гродзенскай амаль цішыня. У апошні час на гэтай вуліцы пабудаваны гандлёвы прыгожы павільён. Тут знаходзіцца таксама і кавярня, у якой адбываюцца дансінгі.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскі**




Тут знаходзіцца крама мужчынскай і дамскай моды, а таксама кавярня «Міла».



Гродзенская вуліца.



Дамы на плошчы імя Касцюшкі.




Пры агульным развіцці турыстычнага руху на Беласточчыне наглядаецца яго заняпад на паўднёвым усходзе нашага ваяводства. Сведчаць аб тым нават фармальныя даныя беластоцкага ПТТК. На Бельшчыне лік членаў ПТТК за апошнія тры гады паменшыўся дакладна ў чатыры разы, падобная сітуацыя на Гайнаўшчыне, дзе з 7 гурткоў ПТТК у 1966 годзе засталося 3 гурткі. Аб Сямяціцкім, Беластоцкім і Сакольскім паветах наогул няма гутаркі. Затое пачынае цвісці арганізаваны турыстычны рух у Дуброўскім павеце, які знаходзіцца па-суседску з вялізным Аўгустоўска-Сувальскім турыстычным комплексам. Ужо за Бобраю турыстычныя базы, у Аўгустоўскую пушчу летам выройваюцца нязлічаныя масы турыстаў.

Адзіным турыстычным цэнтрам на нашым паўднёвым усходзе з'яўляецца славутая Белавежа. Аднак зацікаўленне Белавежай не такое вялікае, як магло б здавацца на першы погляд. Белавежскі цэнтр здольны прыняць утрая больш турыстаў, чым звычайна. Ды нават гэтая трэць турыстаў не знаходзіць тут належнай абслугі, няма падрыхтаваных праваднікоў ні належнай атмасферы зычлівасці ў адносінах да турыстаў. А, здавалася б, традыцыі турыстычнага руху тут куды старэйшыя, чым у Аўгустове.

Атмасфера нядобразычлівасці, прынамсі, у частковай інтэрпрэтацыі ўлад ПТТК, мае адмоўны ўплыў на далейшыя перспектывы развіцця турыстыкі ў нашых ваколіцах. У бліжэйшыя гады, нават у бліжэйшае дзесяцігоддзе, не прадбачваецца якой-небудзь турыстычнай дзейнасці ў басейнах рэк верхняй Нарвы і Мельніцка-Драгічынскага ўчастка Буга.

Няцяжка заўважыць, што нашы людзі разумеюць турыстыку дакладна наадварот: выехаць у лес, наладзіць выпіўку. І ўсё. Вандраванне і пазнаванне ваколіц лічыцца амаль дурнотаю. Гэтакая наша традыцыя, калі штосьці такое наогул заслугоўвае на назву традыцыі...

Свайго часу мы шырока апісвалі ў «Ніве» прыгажосці маршрутаў белавежскіх, нарва-бутскіх і супраслянскіх. Але ад аднаго апісвання і заахвочвання яшчэ не ўзнікне турыстычны рух. На гэта павінна існаваць жыццёвая неабходнасць, патрэба захавання сіл і здароўя. Мо з часам навучымся яе ад слянзакаў, якія па аб'ектыўных прычынах зразумелі вельмі даўно вялікую вартасць турыстыкі. Летнюю Аўгустоўшчыну запаўняюць, перад усім, людзі вялікіх гарадоў і прамысловых цэнтраў. Беластачан там надта мала, не едуць туды нярэдка нават і за дарма. Мы — сыны прыроды. Хіба так. Але турыстыка, — гэта не толькі аказія для кантакту з прыродай, але перад усім — змена асяроддзя, адпачынак ад штодзённых клопатаў, адпачынак ад тых самых людзей урэшце, калі гаварыць па шчырасці да канца. Турыстыка патрэбна і вёсцы, і не толькі ў Варшаву ці ў штаб Гітлера (для сенсацыі).

Разумеем турыстыку як аказію пабачыць дзівы: слон, зубр, від Варшавы з Палаца культуры і т.п. А дзе ж мы згубілі адпачынак? Цішыню і роздумы? Пачуццё прыгажосці і шчасця жыцця? Радасць жыць? (ся)

## Белавежа 23-ох

Выйшла з друку чатырохтысячным тыражом груповая праца пад рэдакцыяй дац. др **Януша Фалінскага** «Нацыянальны парк у Белавежскай пушчы».

Свае навуковыя працы публікуюць тут 23 аўтары, у тым ліку 11 з Белавежы: **дац. Януш Фалінскі, дац. Здзіслаў Пуцэк; др др Станіслаў Бароўскі, Чэслаў Аколуў, Аляксандр Сакалоўскі; мгр мгр Ежы Альшэўскі, Крыстына Фалінская, Данута Гацлаўская, Амелія Кавэцкая, Андрэй Кавэцкі; лекар вет. Збігнеў Красінскі**. Малюнкі і карты выканала **Нэлі Альшэўская.**

Працу аўтары прысвячаюць «Ініцыятару і аднаму з творцаў Белавежскага Нацыянальнага парку **Прафесару Доктару Уладзіславу Шаферу** ў 80 гадавіну нараджэння і 45 гадавіну ўзнікнення парку». (вл)

## Чалавек і пушча

Вядомы нам як актыўны прыяцель Белавежы і адначасова старшыня Таварыства прыяцеляў Белавежы **дац. др Януш Фалінскі** з Белавежскай геабатанічнай станцыі Варшаўскага універсітэта сваю габілітацыйную працу (г. зн. працу на ступень дацэнта) пісаў на тэму «Antropogeneza (antropos — grec. człowiek, i genezis — początek, pochodzenie — red.) roślinności Puszczy Białowieskiej jako wynik syntropizacji naturalnego kompleksu leśnego».

Праца выйшла кніжкай і была напісана пад кіраўніцтвам праф. др **Ул. Матушкевіча** з Варшаўскага універсітэта. (вл)

## Беларускія кнігі

У беластоцкай кнігарні пры вуліцы Кілінскага 10, а таксама ў кнігарнях Бельска, Гайнаўкі, Сямяціч, Саколкі можна набыць наступныя беларускія кніжкі:

Алесь Якімовіч. **Выбраныя творы. І і ІІ т.** Гэта збор твораў выдатнага беларускага дзіцячага пісьменніка.

Р. Мурашка. **Салаўі Св. Палікара.** Раман.

Кандрат Крапіва. **Байкі і сатырычныя вершы.**

**Бярозка.** Гэта дзіцячы зборнік.

Янка Купала. **Выбраная лірыка.** Некаторыя літаратуразнаўцы дашукоўваюцца аналогіі паміж лірыкай Купалы і Лермантава. Максім Горкі лічыў Купалу беларускім Шаўчэнкам.

Анатоль Вялюгін. **Вада і вуды.** Дасканалая рэч да чытання за 2 зл. і 30 гр.

Аркадзь Чарнышэвіч. **Новы дом.** Рэч вартая ўвагі.

Уладзімір Дубоўка. **Жоўтая акацыя.** Мала вядомы ў нас, а як жа цікавы паэт.

**Беларуская народная казка. Філіпка-сынок.**

Якуб Колас. **З майго летапісу.** Гэта рэкамендуем для старэйшай моладзі, ліцэістаў. (ся)

## Сялянская партыя

Апрача ПАРП на вёсках Сакольшчыны вялікую выхаваўчую і арганізатарскую работу вядзе Аб'яднанае стронніцтва людовае ЗСЛь. У 16-ці грамадах працуюць грамадскія камітэты ЗСЛь, якія ў сваёй дзейнасці найбольшы націск кладуць на павышэнне сельскагаспадарчай вытворчасці і на арганізацыю грамадскіх чынаў. У паўднёва-ўсходняй частцы Сакольшчыны найбольшыя заслугі ў ініцыяванні і мабілізацыі сялян да грамадскай працы мае гурток ЗСЛь у Шацілах, прэзасам якога з'яўляецца Станіслаў Хлябовіч. Апошнім часам быў там праведзены рамонт дарогі, якая злучае Шацілы з Нетупай. Аўтарытэт ЗСЛь на Сакольшчыне з кожным годам узрастае. Аб гэтым сведчыць хаця б той факт, што ў мінулым годзе ў рады ЗСЛь было прынята 200 новых членаў. Сакольская арганізацыя ЗСЛь здабыла першае месца ў Беластоцкім ваяводстве па разбудове сваіх радаў. Зараз вядзецца ў ЗСЛь вялікая кампанія — абмен членскіх білетаў.

Варта адзначыць, што сакратаром Павятовага камітэта ЗСЛь на Сакольшчыне з'яўляецца наш дзеяч — Аляксандр Рафаловіч, які ўжо многа год узначальвае Павятовае праўленне аддзела БГКТ. (мх)

## СЯДАЙЦЕ, ЕДЗЕМ

У акцыі беластоцкіх рэдакцый і «Грамады», «Сядайце, едзем», арганізуем заграніchanged экскурсіі:

**СССР** — выезд 18 мая спальным поездам на 8 дзён у Львоў і Кіеў. Кошт 3.190 плюс 577 злотых для абмену на 26 рублёў.

**Балгарыя** — ад 14 да 28 чэрвеня, пабыўка ў прыморскім лясніčым цэнтры «Дружба» (10 кіламетраў ад Варны). Праезд самалётам. Усё каштуе 6 тысяч зл. плюс 1036 для абмену.

**ГДР** — выезд у канцы жніўня або на пачатку верасня на 5 дзён у Берлін і і Пачдам. Кошт 1480 плюс 250 для абмену.

## ЗАГРАНІЦУ І Ў ПОЗНАНЬ

**Венгрыя** — на 6 дзён у Будапешт, ад 19—24 верасня. Кошт 2600 плюс 447 для абмену.

**Чэхаславакія** — 3 дні ў Празе ад 25—29 верасня. Падарожжа самалётам, кошт 1430 плюс 250 для абмену.

Ва ўсіх гэтых экскурсіях прадбачана наведванне самых цікавых мясцовасцей кожнай краіны і кожнага горада.

### На Познаньскі кірмаш

Як штогод, у чэрвені ў Познані будзе адбывацца міжнародны кірмаш. Спулдзельня «Грамада» ў рамах нашай супольнай акцыі «Сядайце, едзем», прымае абслугу экскурсій з Беласточчыны.

Удзельнікі экскурсіі будуць мець: начлегі ад 30—35 зл, ежу 60 зл. за дзень, білеты на кірмаш — 21 зл., білеты ў оперу, аперэту ад 20 да 35 зл., у тэатры ад 15—25 зл.

Праезд забяспечвае «Грамада» аўтобусамі. Па дарозе туды і назад многа цікавых месц можна пабачыць па заказу. Заказы прысылаць да 10 мая.

Арганізуюць экскурсіі аддзелы і экспазітуры «Грамады»:

1) **Беласток,** Аддзел ваяводскі, вуліца Варшаўская 38, тэль. 14-17,

2) **Сувалкі,** экспазітура, вул. Касцюшкі 92, тэль 704,

3) **Сямяцічы,** Пляц Вызвалення 17, тэль 94,

4) **Ломжа,** вул. Крутка 5, тэль 23-30,

5) **Алецка,** вул. Леніна 11, тэль. 766.

Школы і члены спулдзельні «Грамада» карыстаюць са зніжак. (вл)

# ТРЫБУНА чытачоў

## НА СЦЭНЕ СВАЁЙ ВЁСКІ

2 сакавіка ўжо шосты раз у гэтым годзе выступіў са сваёй праграмай мастацкі гурток з Кожына. У праграме былі дзве п'есы — «Зямля» і «Прымакі», многа песень, гумараў і даклад, прысвечаны Святу Жанчын.

Гледачам праграма падабалася. Аб гэтым сведчылі іх гарачыя апладысменты і жаданні далейшых поспехаў у працы гуртка. Пасля выступлення адбылася танцавальная вечарынка. Аб гуртку трэба сказаць, што пяць разоў ён выступаў у суседніх вёсках.

А цяпер ад імя ўсяго гуртка хочам шчыра падзякаваць за ахвярную працу маладой настаўніцы Лідзіі Стэпанюк і кіраўніку гуртка Мікалаю Раманюку.

**Надзя Карчэўская**
Кожына

## НЕ ЎСЕ Ў МУНДЗІРАХ

Два гады таму назад была арганізавана ў Патоцы пажарная каманда, якую ўзначальваюць Казімір Вэкіш — прэзас і Янка Красоўскі — начальнік. Група пажарнікаў складаецца з 17 асоб. Пажарнікі атрымалі патрэбныя прылады, а ў верасні 67 года пачалі будову рамізы грамадскім чынам. Раміза ўжо стаіць і засталося толькі выканчыць. У гэтай рамізе будуць знаходзіцца пажарныя прылады і вельмі важная для моладзі танцавальная зала.

Пажарнікі чакаюць толькі вясны і дапамогі ГРН і ПРН у форме будаўляных матэрыялаў. За актыўную дзейнасць і грамадскі чын пры пабудове рамізы патоцкія пажарнікі атрымалі ад павятовай адзінкі ОСП пажарныя мундзіры. Шкада толькі, што нашыя беластоцкія пажарныя забылі, колькі ёсць пажарнікаў, бо на 17 асоб далі толькі 11 мундзіраў.

**Мікалай Краўчук**
Патока

## ЖАНЧЫНЫ З НОВАГА КОРНІНА

У Новым Корніне актыўна дзейнічае гурток вясковых гаспадынь. Дагэтуль былі арганізаваны чатыры курсы, на якіх інструктар з павятовага аддзела сельгасгурткоў у Гайнаўцы Леакадзія Зароўская пазнаёміла жанчын з рознымі спосабамі прыгатавання ежы і пячэння. На апошнім курсе, які адбыўся 4—9 сакавіка, узяло ўдзел 30 жанчын і дзяўчат. Усе яны з цікавасцю вучыліся, як трэба ашчадна выкарыстоўваць розныя прадукты і рабіць з іх смачную і прыемную ў выглядзе ежу.

Жанчыны з Новага Корніна так зацікавіліся кулінарнымі справамі, што хочуць далей паглыбляць свае веды ў гэтым напрамку. Леакадзія Зароўская абяцала пазнаёміць іх на наступным курсе, у канцы гэтага года, з прыгатаваннем мясных вырабаў. Жанчыны хочуць яшчэ навучыцца рабіць варэнне і кампоты з яблыкаў, сліў, ігруш і іншых прадуктаў.

**У. Гацута**

## МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК

У Дубічах Царкоўных працуе ўжо два гады на почце Мікалай Панфілюк. Ён абслугоўвае чатыры вёскі — Дубічы, Тапары, Рутку і Тафілаўцы. Сярод насельніцтва Панфілюк карыстаецца вялікаю папулярнасцю і пашанаю. Ён сумленна выконвае свой абавязак. З'яўляецца адначасова карэспандэнтам тыднёвіка «Нівы», многа піша аб жыцці людзей сваёй і суседніх вёсак, любіць пагутарыць аб «Ніве» і прачытаць з яе старонак падпісчыкам цікавейшы артыкул або гумар.

**Пятро Кулік**
Тафілаўцы




**Дарагое Сэрцайка!** Маю я сяброўку. Сяброўства нашае цягнецца пару год I вось што здарылася.

Да мяне прыходзіў хлапец з нашай вёскі. Мы з ім пасябравалі. Аднак, калі Коля сказаў мне аб жаніцьбе, я не згадзілася, прапанавала яму пачакаць, бо я яшчэ маладая. Ад таго часу прайшоў ужо год. Мы з Колем перасталі сустракацца. Ён пачаў ездзіць да іншых дзяўчат, а я і не лічыла гэта за штосьці дрэннае, бо сама ж не згадзілася выйсці за яго замуж. Мы з Таняй (так завецца мая сяброўка) хадзілі заўсёды разам. Месяц таму назад, Коля пачаў на адной забаве танцаваць з Таняй. Я ведала, што ён ёй падабаецца, толькі не верыла, каб яна яму падабалася. Коля хацеў зрабіць мне на злосць і таму зацікавіўся Таняй. Ад гэтага часу Таня перастала са мной дружыць, перастала нават гаварыць са мной, а калі ідзе побач маёй хаты, адварочваецца. Не ведаю, Сэрцайка, што мне рабіць, ці і мне ад яе адварочвацца? А праўду кажучы, то я саромлюся так рабіць. Нават не маю ніякіх прэтэнзій ні да яе, ні да Колі, тым больш, што Коля «не ходзіць» з Таняй. А мо мне самой вытлумачыць ёй, што так не паступаецца? Парай.

**Ніна з Гайнаўшчыны**

**Дарагая Ніна!** Сапраўды, твая сяброўка брыдка паступае, бо тое, што Коля танцаваў з ёю і што ён ёй падабаецца, не з'яўляецца прычынай, каб так брыдка захоўвацца адносна цябе. Па-мойму, ты вядзі сябе культурна, не тлумачся перад ёю і не адварочвайся, калі яе сустрэнеш. Хай яна зразумее сама свой пастыпак.

**СЭРЦАЙКА**

## САМАДЗЕЙНІКІ З МАЛІНІК

У Малініках (Бельскі павет) кіраўніком мастацкага калектыву з'яўляецца Міхась Іванчук. На пачатку малінніцкі калектыў падрыхтаваў беларускую аднаактавую п'есу «Пярэстая красуля». У праграме ёсць таксама беларускія, польскія і рускія песні, гумар. У студзені калектыў наведаў Кашалі. а ў лютым — Красну Весь і Грыгораўцы. Нядаўна атрымаў ён запрашэнне ў Кузаву (Гайнаўскі павет). Ужо цяпер малінніцкія самадзейнікі рыхтуюць новую пастаноўку на беларускай мове «Ластаўка». Пажадаем маладым самадзейнікам як найлепшых поспехаў у працы.

Кактус

## ВЯСКОВЫЯ СПРАВЫ

Хоць цяжка працаваць сялянам вёскі Белкі на вузенькіх палетках, але яны стараюцца на колькі можна, каб змеханізаваць палявыя работы.

Напрыклад, ужо цяжка ўбачыць каго-небудзь з касою на сенажаці. Жыхары вёскі закупілі 16 конных касілак і імі косяць траву, а вядома, што ў Белках ёсць многа зялёных лугоў і высакаякаснае сена.

Да восені мінулага года на палосках вёскі Белкі не было сеўніка. Усе жыхары сеялі збожжа з каробкі. Грамадзянін Павел Астапчук восенню першы выехаў на свае поле з сеўнікам. Некаторыя жыхары вёскі казалі, што Павел Астапчук толькі паразвальвае свае загоны. За пару тыдняў, калі ўбачылі палоску Паўла Астапчука з прыгожа паўсходжаным жытам, усе пераканаліся ў карысці сеўніка. Сцяпан Краўчук восенню мінулага года купіў трактар «Дзік—2», якім плануе абрабляць сваю 10-гектаравую гаспадарку.

На справаздачна-выбарчым сходзе сельскагаспадарчага гуртка ў вёсцы Белкі былі закрануты справы прыняцця сялян вёскі Сакі ў члены гуртка. Жыхары вёскі Сакі на агульным сходзе перадалі для гуртка ў Белках 75% грошай з фонду развіцця сельскай гаспадаркі, а члены сельгасгуртка ў Белках абавязаліся поўнасцю забяспечыць сялян вёскі Сакі сельскагаспадарчымі машынамі. Запланавалі купіць малацільны агрэгат, 5 сеўнікаў да збожжа і апырсквач «Ольза» для нішчэння пустазелля, а таксама машыны для паўмеханічнай апрацоўкі ільну. Аб сеўніках на выбарчым сходзе многа гаварылася. Людзі ўжо былі перакананымі прыкладам Паўла Астапчука. Пастаноўлена было, што на 10 гаспадароў будзе прызначаны адзін сеўнік, і з гэтых людзей выбярэцца адзін апякун сеўніка, які будзе абавязаны перад праўленнем сельскагаспадарчага гуртка належна яго абслугоўваць.

*

На справаздачна-выбарчым сходзе ПОП у вёсцы Белкі, які адбыўся 24 лютага 1968 г., было вырашана вельмі многа спраў. На першым плане была пастаўлена справа камасацыі зямлі вёсак Белкі і Сакі. Былі парушаны справы аб паляпшэнні працы сельскагаспадарчага гуртка і аб забеспячэнні сялян мінеральнымі ўгнаеннямі. Пастаноўлена, што ПОП будзе запрашаць на свае сходы праўленне сельскагаспадарчага гуртка, і цяжкія справы будуць вырашацца супольна. Сакратаром зноў выбраны быў тав. Аляксандр Раеўскі, які гэтую ганаровую функцыю выконвае ўжо многа год.

**М. Лук'янюк**
Гайнаўскі павет

— Усё роўна, пісьмо трэба адправіць! — цвердзіць Карцаў.

— Што б тут такое прыдумаць? — задумліва гаворыць матрос.

— Позна!

— Позна, калі заб'юць.

— Але што можна зрабіць?

— Уцякаць, — выпальвае Джаб.

Карцаў ашаломлена глядзіць на матроса.

— Часу, хлопец, у абрэз, — гаворыць Джаб. — Схаджу прынясу паперу, напішаш пісьмо. А потым — з Богам! Да світання ты павінен выбрацца з бухты.

Джаб выходзіць.

Карцаў ходзіць з кутка ў куток.

А час бяжыць, бяжыць... Крокі ў калідоры. Джаб?

Не, у камеру ўваходзіць вартаўнік і незнаёмы матрос. Яны ўзброены. Апоўначы на караблях усіх мораў і акіянаў змяняюцца вахты. Вось і тут, ля карцера, уступае на пост новы вартаўнік.

А Джаба ўсё няма. Чаму? Узяць блакнот і пяро — мінутная справа. А яго ўжо няма звыш гадзіны.

Карцаў сціскае рукамі раскалены лоб.

Палавіна першай. Праз чатыры гадзіны світанне, пасля якога, калі ўцячы не ўдасца, для асуджанага ўжо не будзе ні дня, ні вечара.

I раптам нехта бярэ яго за плячо.

— Джаб, — шэпча Карцаў, — Джаб!..

— Ну-ну, — мармыча матрос, — хопіць нервавацца. Вось папера і ручка. Не марудзь, пішы.

— Каму?

— Рускім уладам. Пішы адкрыта. Я прыдумаў, як зрабіць, каб пісьмо дайшло.

Карцаў піша, складвае лісткі, на канверце выводзіць: «Перадаць у Наркамат абароны СССР».

Джаб бярэ пісьмо, хавае на грудзях.

— Усё будзе як трэба, — бадзёра гаворыць ён .— Давялося пачакаць. Папярэдні вартаўнік не выпусціў бы цябе ў начны час. А новы — разява. Скажу, што ў арыштаванага дрэнна з жыватом. Зразумеў?

— Зразумеў, — паспешна адказвае Карцаў. — Ідзем!

— Пачакай! Апынуўшыся ў вадзе, не адплывай ад борта, трымайся ўздоўж яго да штэўня, а адтуль — да бочкі, на якой стаіць карабель. Ты павінен даплысці да яе і затаіцца, перш чым я падыму трывогу. Запамятай: у цябе будзе мінуты дзве. Паспееш управіцца?

— Пастараюся! — шэпча Карцаў, трасучыся ад хвалявання.

— Прыкмецяць — і мы з табою будзем гойдацца ў пятлі побач. Не падвядзі.

— Ясна.

— Правізію табе сабраў: шакалад і цукар. Усё у гумовым мяшку, вады не баіцца. Перадам наверсе. Пакет не павінен трапіць у чужыя рукі. Таму ў сярэдзіну палажыў груз. Выпусціш яго — ён і пойдзе на дно... Ну, усё! Пайшлі.

(Працяг будзе)

## ЗАКАНЧЭННЕ КУРСУ

У Пранезічах (Бельскі павет) гурток вясковых гаспадынь арганізаваў кулінарны курс. 2 сакавіка адбылося ўрачыстае заканчэнне курсу. Прышлі сюды мужчыны і жанчыны. Сталы ўгіналіся ад прысмакаў. Пад музыку гарманіста Сцяпана Хаманюка весела бавіліся ўдзельнікі вечарыны.

Тэкст і фота П. Зінкевіч



Выступае з праграмаю старшыня гуртка вясковых гаспадынь Анна Мінкевіч.

# КІНО

**Праграма на 2—7.IV.1968 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Na pomoc" (angl.), 2—3. „Człowiek bez paszportu" (radz.), 4—5. „Kopciuszek w potrzasku" (franc.), 6—7.

**Дубіны**

„Dzieci Don Kichota" (radz.). „Dzielnica kruków" (szwedzki), 6—7.

**Нараўка**

„Gdzie jesteś Maksymie" (radz.), „Królowa stacji benzynowej" (radziecki), 3—7.

**Нарва**

„Kochankowie z Marony" (polski), „Znowu Max Linder" (franc.), 3—7.

**Чыжы**

„Złoto" (polski), „Dzwony dla bosych" (czeski), 3—7.

**Дубічы Царкоўныя**

„Lenin w Polsce" (polski), „Gorzkie dno rzeki" (jugosł.), 3—7.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Bicz Boży" (polski), „Lebiediew contra Lebiediew" (radz.), 3—7.

**Орля**

„Teresa Desgoureux" (franc.) „Porucznik jazdy" (radz.), 3—7.

**Райск**

„Zwariowana noc" (polski), „Szesnasta wiosna" (radz.), 3—7.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Człowiek bez paszportu" (radz.), „Kopciuszek w potrzasku" (franc.), 2—5.

**Міхалова**

„Jak się masz Vero" (węgierski), 2—3. „Dziewczyna z dobrego domu" (polski), 4—5. „Nikt nie chciał umierać" (radz.), 6—7.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Romanca na trąbkę" (czeski), 2—3. „Gra bez reguł" (czeski), 4—5. „Sami swoi" (polski), 6—7.

**Шудзялава**

„Aleksander Newski" (radz.), „Dialog" (węgierski), 3—7.

**Янаў**

„Czterej pancerni i pies" (polski), 3—7.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Czterej pancerni i pies" (polski), 3—7.

**Новы Двор**

„Człowiek z karabinem" (radz.), „Grymasy" (węgierski), 6—7.

**Ліпск**

„Kozacy" (radz.), „Grunt to zdrowie" (franc.), 6—7.



Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrócie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. G-3. NAKŁAD 7719

# Капялюш да крывога носа

Ох, каб вы знялі, мае каханыя, што на гэтым свеце робіцца. Проста чуда. Заходжу я аднойчы да хлява, а мая Лысуха са збітым рогам лобам мяне ў плечы, а пасля тым стырчыком, значыць, добрым рогам, як падчапіла за вобшыўку спадніцы, так і паднялa пад самы бэлек. Вотрубі з вядзерца пасыпаліся, я амаль да смерці перапалохалася і проплач пытаю: «За што гэта так нада мною здзекваешся? Патлянь і вотрубі табе прынясла і вітамінаў дамяшала». А яна трымае. Ну, думаю, канец тут. І пачала шукаць спосабу. Толькі ўчапілася за жэрдку, аж нявестка ўварвалася ў хлеў. І яна ўпрасіла кароўку, каб мяне апусціла. Дайшла я да сябе дзякуючы сваёй сваньцы, бо яна і зелле паліла і Лысуху стрыгла. Цераз якуюсь гадзіну пайшла я зноў да хлява і пытаю: «Скажы, даражэнькая, за што гэта так?» А яна мне кажа: «Ты, што сляпая, людзі да вясны гатовяцца, а ты мяне нават на шпацыр не выпускаеш. Пачытай, кажа, часопіс «Плён» і «Хлопскую Дарогу». Там пішуць, што трэба выпускаць жывёлу кожны дзень усё на даўжэй». Якраз, на маё шчасце, уварваўся снег клубам, завіруха хлопнула дзвярыма і так снегам закруціла па цэлым хляве, аж Лысуха вочы прыплюшчыла. «Бачыш, кажу, вясну?». «А чаму, — кажа Лысуха, — не вясна, ты ж помніш, як вазіла мяне на рынак, то амаль у кожнай вёсцы сеўнікі стаяць гатовы да сезону. Некаторы на падворку, а многа ўжо і на вуліцу павывозілі. Значыць, гатовяцца да сезону. Толькі ў гэтых заспалых прыватныя то яшчэ ў спратку, а кулковыя ўжо даўно на дварэ. Ты ж, — кажа, — сама ў гэтым зажондзі і хіба знаеш, як з вашымі машынамі». Паверце, мне ад гэтага ўсяго аж слаба зрабілася, бо дзе ж вы бачылі, я яе кармлю, а яна мне за казённыя машыны такія выгаваркі дае і рогам за вобшыўку, падымае. Ад злосці я хлопнула дзвярыма мацней, чым тая завіруха, хапіла хлебную лапату і давай адкопваць з-пад снегу заваленыя машыны.

Ужо і прэзас нашага кулка прышоў з рыдлёўкаю і дыспазітар мо былі б і адкапалі, бо дыспазітар ужо рыдлёўкаю пачаў дастававацца да якоесь трубы, пэўна гэта быў камінок ад «Урсуса», як чорт аграмільяранта прынёс. Прывітаўся як чалавек, але гаварыць пачаў як мая Лысуха.

«Што ж вы сабе думаеце, заняліся чорт знае чым, гэта трэба было рабіць восенню, пакуль не завеяла. Што вы цяпер зробіце, калі сеўнік вышыні 120 см, а снегу тут каля плоту 250 см. Кідайце гэтую работу і едзьце па мінеральныя ўгнаенні. Башыя машыны і так паіржавелі ад вашага добрага дотляду. Яшчэ і свае сенажаці да гэтага давядзеце, як навозаў не купіце». Праўда, абідна нам было слухаці за агульныя жалезінкі такую лаянку, але ўсе выбраліся ехаць па ўгнаенні. Разам паехаў і мой стары бо суперфасфату ён купіў у Заблудові, а солі там не было. Каб зналі вы, чым кончылася! Заехалі да Міхалова, бо быццам там вельмі прыгожая патасоўка, а там якраз новы загад прэзаса ці чый там. Прыгажуня, што выпісвае ўгнаенні, кажа: «...Як возьмеце анафасу, то прадам солі патасовай, а інакш не». Сілком змушала браць анафас, а інакш не хацела прадаць. Многія так і паехалі дамоў, нічога не купіўшы. Цімох з гэтага гора напіўся, як баран, а мой стары заплаціў за анафас і соль, ды забраўшы з магазіна, не ўспеў нават торбу з каня зняці і мне абаранку купіці, толькі каня бічом і хутчэй да хаты. Паверце, даражэнькія, як выйшла з хаты, то аж заплакала, глянуўшы на каня. «Халера на цябе, ты крываносы, мусіць мазгі адпіў, што так жывёлу мучыш». А ён саскочыў з фуры і кажа: «Міхалінка, павер, што да солі давалі дадатак анафасу, але мне адзін знакомы шапнуў, што зараз прынясуць яшчэ дадатак другі — фільцовыя капелюшы і быццам кожны будзе мусеў купіці. Таму я так уцякаў, бо дзе ж мне капялюш да крывога носа, а ў іх розуму хопіць і на гэта».

**Суседка Міхаліна**

# НІЎКА

У гэты куток мы паставім шафу, у гэты тэлевізар, а ў гэты мы будзем ставіць Шурыка.

### НЕ ПЕРАЧАКАЕШ

— Колькі разоў я цябе вучыла не ўмешвацца ў размову старэйшых. Пачакай, пакуль яны скончаць!

— Я стараюся, мама. Яны ніколі не канчаюць.

### ЁРШ І ЧАРВЯК

— Вось, праз цябе трапіў на кручок, — сказаў ёрш чарвяку.

— Дурань, я ўжо даўно на ім сяджу, — уздыхнуў чарвяк.

### ПАМЫЛКА ПОВАРА

— Повар, я прасіў дзве порцыі мяса, а вы мне далі толькі адну!

— Прабачце, калі ласка, я забыўся разрэзаць кавалак на дзве часткі.

### КЕМЛІВЫ

Ала: — Такім чынам, Юра, у сем гадзін на тым жа месцы, і калі адзін з нас крыху спозніцца...

Юра: — То я пачакаю.

### У МАГАЗІНЕ

— Мяне цікавіць гэтая пральная машына. Мыць на ёй нескладана?

— Не, не. Зусім проста.

— Тады я куплю. Гэта палегчыць працу майго мужа.

### ДАЎНО ЗНАЁМЫЯ

— Вы даўно знаёмы са сваёю жонкай?

— З дзяцінства. Памятаю, калі я калыхаў яе на руках, яна любіла стукаць мяне па лысіне.

# ПРЫЗНАННЕ СТАРОГА ХАЛАСЦЯКА

Бачыў зноў яе ўчора ў сне
(Прыгажуня! Яна ў мяне модніца!)
І рашэнне прыйшло да мяне:
Час і мне ўжо сям'ёй абзаводзіцца.
Хопіць жыць аднаму, як ваўку,
Хопіць сёрбаць чаёк несалоджаны,
Прапаную сваю ёй руку:
Я ж таксама для шчасця народжаны.
Ці ж да старасці лыжкі мне мыць?
У людзей гэтым жонкі займаюцца...
Ажанюся, сябры, так і быць!
Муж нядрэнны з мяне атрымаецца.
Ёй пастукаў я зранку ў акно:
«Мо, нарэшце распішамся сёння?
Ох, каб ведала ты, як даўно
Па табе сэрцам, любая, сохну».
А яна мне смяецца ў адказ:
«З неба зорку дастань сёння вечарам».
...Я, дзяўчаты, пытаюся ў вас:
Хіба ж мне халастым быць вечна?
Што мне заўтрашні дзень прынясе?
І калі маё сэрца ўсцешыцца?
...Я хаджу усю ноч па расе
Каля хаты яе золкай сцежкаю.

**Васіль Каржаневіч**

### ВОСЬ КАБ НААДВАРОТ!

Сямікласнік гаворыць свайму сябру:

— Кажуць, у Чэхаславакіі самыя лепшыя ацэнкі — гэта 1 і 2. Вось каб нам туды трапіць — мы былі б круглымі выдатнікамі!

— Не бойся! На гэты раз я траплю ў зайца.

### НЕБЯСПЕЧНЫ НУМАР

Заканчваючы нумар, дрэсіроўшчыца ў цырку цалуе грознага тыгра проста ў морду. Дырэктар звяртаецца да публікі:

— Тысячу злотых таму, хто адважыцца зрабіць тое ж самае!

Устае малады чалавек:

— Я, — кажа ён, — толькі спачатку ўбярыце гэтага звера.

— Мурка хоча пакаштаваць лятучых мышаў...

### БАРАДА

У Якуба Коласа, калі той сядзеў у Мінскім астрозе, адрасла вялікая густая барада. Ён збіраўся ўжо яе падстрыгчы, як неўзабаве барада прыдалася да важнай справы.

Пасля забойства начальніка турмы ў арыштантаў рабілі частыя і раптоўныя вобыскі, адбіралі грошы і недазволеныя рэчы. Я. Колас аднойчы ўбачыў праз «тэлефон» — дзірку ў сцяне, што трасуць суседнюю камеру. «Куды дзець грошы?» — устрывожыўся паэт (у яго было дзесяць рублёў — грошы ўсяе камеры).

Я. Колас, доўга не думаючы, злажыў дзесятку і сунуў ў сваю бараду. Абшарылі ўсю камеру, launch ператрэслі сяннікі, агледзелі апранахі, вывернулі кішэні, але ў такую незвычайную схований — бараду, вядома, ніхто не заглянуў.

— Ну, браток, пакуль сядзіш у турме — барада наша! — сказалі сябры пасля вобыску. Коласава барада саслужыла добрую службу, у ёй хавалі пісьмы, грошы і нават нёвялічкі ножыкецізорык.

<u>Песні па заяўках</u>

Па просьбе А. Чэмеля з Беластока змяшчаем песню п.з.

# Ехал я из Берлина

Ехал я из Берлина
По дороге прямой,
На попутных машинах
Ехал с фронта домой.
Ехал мимо Варшавы,
Ехал мимо Орла —
Там, где русская слава
Все тропинки прошла.

**Припев:**

Эй, встречай,
С победой поздравляй,
Милыми руками
Покрепче обнимай!

Очень дальние дали
Мы с друзьями прошли
И нигде не видали
Лучше нашей земли.
Наше солнышко краше,
И скажу, не тая:
Лучше девушек наших
Нет на свете, друзья.

**Припев.**

За весенние ночи,
За родную страну
Да за карие очи
Я ходил на войну.
Вы цветите пышнее,
Золотые края.
Ты целуй горячее,
Дорогая моя!

**Припев:**

Эй, встречай,
С победой паздравляй,
Милыми руками,
Покрепче обнимай!

# Курёзы

### ПАДЫХОДЗІЦЬ

Нейкі чалавек зайшоў у магазін у Даласе (Тэхас) і запытаў, ці ёсць патроны для рэвальвера.

— Думаеце, яны падыходзяць да гэтага пісталета? — спытаў ён праз некалькі хвілін, калі прадавец падаў яму карабок.

— Паспрабуйце — гэта прасцей за ўсё.

Пакупнік зарадзіў пісталет.

— Падыходзяць, — сказаў ён. — А цяпер давайце сюды касу!

Паліцыя Даласа шукае бандыта.

### ГАНАРОВАЯ ПАСАЖЫРКА

У гасцініцу для жывёл у лонданскім аэрапорце прыбыла транзітная пасажырка — сабачка Піпа. Яе з'яўленне выклікала страшэнны перапалох.

На самай справе, Піпа адмовілася ад мяса, потым ад пячэння, якія былі ў меню. Занепакоеныя служачыя гасцініцы шукалі страву, якая б спадабалася сабачку, пакуль у ашэйніку не знайшлі запіску, у якой паведамлялася, што Піпа не есць нічога, акрамя кітайскай капусты і гародніны пад асобым соусам, і ўсё гэта павінна падавацца на плоскай талерцы з краямі, выгнутымі, як лісць дуба, і абавязкова афіцыянтам — мужчынам у белай куртцы.

Піпе прыгатавалі кітайскую капусту і падабралі афіцыянта.

### «ГАНОРЫС КАЎЗА»

Універсітэт штата Айдаха (ЗША) прысвоіў ганаровае званне доктара «ганорыс каўза» аднаму нью-йоркскаму гаспадару рэстарана за тое, што той рыхтуе дасканалыя стравы з памідораў, выгадаваных у гэтым штаце.

# Смяецца з намі

Цёшча толькі тады не выходзіла з сябе, калі зяць лез са скуры вон.